**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск—5.10, 21.20, 16.10;
Віцебск—4.54, 21.17, 16.23;
Магілёў—4.59, 21.09, 16.10;
Гомель—5.05, 20.58, 15.53;
Гродна—5.28, 21.33, 16.05;
Брэст—5.34, 21.28, 15.54.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 23 ліпеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Прокла, Міхала, Хведара, Івана, Арсеня, Гаўрылы; Якуба, Крыштафа.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

25 ЛІПЕНЯ 1992 г. субота, № 148 (21926)

● цана 1 рубель

# ГЭТА САЛОДКАЕ СЛОВА—НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ...

*27 ліпеня Рэспубліка Беларусь упершыню адзначыць сваё нацыянальнае свята—Дзень незалежнасці*



**Чалавек — гучыць горда! Памятаеце гэты выраз? Не адно дзесяцігоддзе ён, паводле нашых перакананняў — і найперш ідэалагічных, клікаў і вёў нас наперад, нібыта — у светлую будучыню. А спахапіліся і высветлілася: ішлі і, урэшце, прыйшлі мы, мякка кажучы, не туды... І чалавек у нас, як стала відавочна, далёка не першая наша гордасць.**

**Дзякуй Богу, што ўсё ж спахапіліся: як кажуць, лепш пазней, чым ніколі. І калі два гады назад сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, а 25 жніўня 1991 года нечарговая сесія ВС прыняла Закон аб наданні гэтай Дэкларацыі статуса канстытуцыйнага закона, мы нібыта набылі другое дыханне — глыбокае, свежае, сапраўды чалавечае і цывілізаванае.**

**Так, без Свабоды, Незалежнасці чалавек ніколі не быў і не стане Асобай. Такой асобай, якой, самастойна акрэсліўшы для сябе як прынцыпы жыцця і дзейнасці тыя ж свабоду і незалежнасць, стаў, скажам, Андрэй Сахараў. Роўных жа ці блізкіх да яго Асоб—па інтэлекту і кругагляду, шчырасці перад народам і вернасці яму, самаадданасці і самаахвярнасці ў імя яго, народа, жыцця і мэт, — у нас, на жаль, пакуль што няма... А такія людзі патрэбны, яны — без перабольшання — нашы маякі, пуцяводныя зоркі...**

**...Незалежнасць і суверэнітэт Рэпублікі Беларусь узаконены, паслязаўтра мы ўпершыню будзем святкаваць гэта. Але ж што робім мы — усе разам і кожны паасобку, каб стала Айчына па-сапраўднаму свабоднай і самастойнай, каб народ наяву пачаў «людзьмі звацца»...**

**Няхай даруе мне чытач за несвяточны тон наступных выказванняў, але... Але робім мы сёння далёка не ўсё і не ўсюды ў імя сапраўднай Незалежнасці, сапраўднага Суверэнітэту Беларусі.**

**Пайшоў, так бы мовіць, гуляць у прамовах высокапастаўленых кіраўнікоў і нават вядомых палітычных дзеячаў, па старонках друку, перадачах тэлебачання і радыёвяшчання выраз: «Трэба напаўняць незалежнасць рэспублікі рэальным зместам» ...Ён нібыта і ясны, зразумелы. Толькі вось дакуль будзем мы жыць па гэтаму «ўсемагутнаму» «трэба»? Дзе, урэшце, канкрэтныя прыклады гэтага напаўнення?**

**Яны ёсць. Аднак — кволыя, нясмелыя, нярэдка — малазначныя і невыразныя. А першыя ж крокі — пачатак шляху: вялікага, складанага, супярэчлівага... Вось пагэтаму і рабіць іх трэба рашуча, ўпэўнена, смела!**

**Атрымліваецца ж, на жаль, іншы раз і наадварот.**

**Усяго два з палавінай гады назад — у студзені 1990-га — прыняты Закон аб мовах у рэспубліцы. ЗАКОН, у якім дакладна занатавана, што дзяржаўнай мовай Беларусі з'яўляецца беларуская мова... БЕЛАРУСКАЯ, якая ж яшчэ! Але ўжо сёння ў рэспубліцы пэўныя сілы ўсё актыўней разгортваюць рух за прызнанне ў ёй... двухмоўя. І гэты рух падтрымліваецца нават асобнымі сродкамі масавай інфармацыі. Так і хочацца ўсклікнуць: дык што ж гэта робіцца?!**

**Не, не паспрыяе гэта нашай незалежнасці, суверэнітэту. Як не спрыяе і прамаруджванне з уводам нацыянальнай валюты; прыватызацыяй дзяржаўнай маёмасці, зямлі, жылля; больш шырокім адкрыццём доступу ў эканоміку замежных інвестараў і г. д., і да т. п. Толькі самастойнасць, свабода дзеянняў павінны стаць сёння спадарожнікамі нашых планаў і задум, рашэнняў і дзеянняў. Тады і толькі тады і зойме Рэспубліка Беларусь «свой пачэсны пасад між народамі», а сама яна будзе карыстацца павагай і аўтарытэтам у свеце.**

**...Салодкае яно слова — незалежнасць. Але дзеля яе трэба працаваць, дзейнічаць!**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# «НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, ПАСЛЯДОЎНАСЦЬ, ЗГОДА—шлях, які павінны прайсці дзяржава і кожны з нас»

**«Прамая лінія» Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава ШУШКЕВІЧА з чытачамі газеты «Звязда»**

**— Станіслаў Станіслававіч, звоніць Мікалай Міхайлавіч ЛІСІЦКІ. Чаму ў Мінску, не кажучы ўжо аб правінцыі, немагчыма знайсці тавараў з беларускай дзяржаўнай сімволікай, не часта сустрэнеш дзяржаўныя сімвалы і ў афармленні гарадоў і вёсак?**

— Пытанне зусім не другараднае — гэта вельмі істотная праблема. Нядаўна мы стварылі спецыяльную камісію, якая займаецца яе вырашэннем. Абяцаю, што пытанне будзе пастаўлена самым катэгарычным чынам і становішча выправіцца.

**Ігар ГОРЫН (г. Горкі):**

**— Вашы адносіны да ідэі неадкладнага ўвядзення паста Прэзідэнта Беларусі?**

— Цяперашняя Канстытуцыя, як вядома, не прадугледжвае гэту пасаду. Што асабіста да мяне, то я — не прыхільнік падобных тэрміновых змен. Наўрад ці гэта карэнным чынам можа палепшыць становішча.

**Уладзімір Мікалаевіч ГАНЧАРОЎ (г. Мінск):**

**— Ці ёсць у Вас свая каманда?**

— Ёсць. Але каманда можа быць рознай. Для прапрацоўкі кожнага пытання ствараецца група сумленных, кваліфікаваных людзей, з якімі я працую па эканамічных і палітычных пытаннях. Але іх нямнога.

**— Калі можна, назавіце прозвішчы.**

— А гэта ўжо, прабачце. Я не хацеў бы ставіць іх у няпростае становішча.

**Мікола ГАЎРУСЕЎ (г. Баранавічы):**

**— Чаму мы працягваем настойліва рухацца да Масквы? Мы толькі што вызваліліся з гэтых абдымкаў і зноў туды імкнёмся. А як жа суверэнітэт?**

— Не разумею, што вы маеце на ўвазе?

**— Чаму войскі, якія выводзяцца з Усходняй Еўропы, размяшчаюцца ў нас?**

— Скажыце, калі ласка, а як будзем вырашаць пытанне з тымі войскамі, якія на нашай тэрыторыі? Яны ж не ўсе беларускія. Тут ёсць войска, якое лагічна паставіць пад расійскі флаг. Вы згодны з гэтым?

**— Так.**

— Калі згодныя, дык давайце вырашаць праблему цывілізаваным шляхам, шляхам перагавораў, а не ўльтыматумаў. Менавіта гэта робяць ў Маскве наш урад і наша Міністэрства абароны.

**— Калі ісці такім шляхам, то зноў створым Саюз?**

— Я не ведаю, што вы маеце на ўвазе. Саюза ў нас няма, ёсць — Садружнасць.

**— Станіслаў Станіслававіч, вось яшчэ што хвалюе. Перакананы: дзе прайшоў бальшавік, беларусу няма чаго рабіць. Калі зноў абудзяцца камуністычныя сілы, то ўсе нацыянальныя праблемы адыдуць у нябыт.**

— А што тады рабіць з тымі, хто быў бальшавікамі? Іх жа больш, чым паўмільёна. Давайце жыць па-людску. Там, дзе яны памыляліся, дапаможам ім стаць на правільны шлях.

**— А як жа Дзень незалежнасці: ён набліжаецца, а святкаваць яго ніхто не збіраецца?**

— Свята гэта для людзей, а не для афіцыяльных асоб. Глядзіце тэлевізар з чатырох гадзін дня і вы ўбачыце рэпартаж са свята. Можаце ўдзельнічаць у святкаванні каля філармоніі ў Мінску і ў іншых месцах рэспублікі. Добрага вам свята. Усяго найлепшага.



Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

**Іван Мікалаевіч ГУДКОЎСКІ:**

**— Чаму практычна выраўнены пенсіі тых, хто працаваў доўга і добра, і хто не зусім?**

— Гэта сур'ёзнае ўпушчэнне ў заканадаўстве і над гэтай праблемай працягваюць працаваць камісіі Вярхоўнага Савета. Думаю, што справа будзе вырашана ўжо ў гэтым годзе. Трэба падумаць пра тых людзей, якія сумленна працавалі многія гады, але зараз іх пенсіі амаль выраўнены з тымі, хто працаваў менш эфектыўна. Калі б нам удалося паправіць эканоміку, то і сацыяльныя праблемы вырашаліся б больш справядліва.

**Іван Цімафеевіч ПАЛЯКОЎ, інвалід вайны II групы, г. Мінск:**

**— У Мінску ёсць інваліды Вялікай Айчыннай вайны, якія доўгі час стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Ці можна спадзявацца, што яны атрымаюць кватэры да 93-га года? Ці не адракуцца ўрад і Вярхоўны Савет ад сваіх запэўніванняў па падтрымцы людзей?**

— Наконт 93-га года надзея даволі слабая. Аб'ёмы будаўніцтва істотна скарочаны. Чарнобыльскія праблемы вам таксама вядомыя...

**— Але ж, магчыма, ёсць нейкія рэзервы?**

— Аб'ёмы дзяржаўнага будаўніцтва вельмі скарочаны. Асноўны крэн зараз будзе на індывідуальнае будаўніцтва, каб людзі будавалі сваё жыллё сваімі сіламі. Я разумею, што для інвалідаў гэта непрымальна. Але я не магу даць вам гарантыю, што вы атрымаеце кватэру ў 93-м годзе. Гэта канкрэтная сітуацыя патрабуе канкрэтнага вырашэння.

**— Скажыце, а курс урада не пераменіцца?**

— Справа не ў курсе ўрада, таму што ўрад не можа «нарадзіць» грошы, сродкі. Пытанне ў курсе ўсяго грамадства: альбо мы пачнём развіваць нашу эканоміку і тады ўсе нашы справы пачнуць рухацца. Калі ж яны будуць ісці так, як цяпер, то перспектыва вельмі сумная — я вам прама кажу. На жаль. Давайце імкнуцца рабіць лепш.

**Вячаслаў Віктаравіч СВІЗУНОЎ (г. Бабруйск):**

**— Трэба ў новую Канстытуцыю абавязкова ўвесці артыкул або раздзел аб механізме ўступлення ў дзеянне законаў на тэрыторыі Беларусі. Каб кіраўнікі выконвалі законы на наступны дзень, а не чакалі «тлумачэнняў» мясцовых органаў, якія ў выніку зводзяць гэтыя законы на нішто, і каб адказнасць за іх парушэнне была вельмі строгай.**

— Я магу падпісацца пад вашымі словамі: законы трэба выконваць. Але калі мы пачнём не разабраўшыся як след выганяць з работы, прыцягваць да крымінальнай адказнасці, то, баюся, што прыйдзецца ствараць рэпрэсіўны апарат, ад якога мы адышлі. Прынцып у вас правільны: калі не будзем выконваць закон, не пабудуем прававую дзяржаву.

**— Мяне вельмі хвалюе, у прыватнасці, чаму ў Бабруйску не выконваецца закон аб мовах. Нехта ж вінаваты ў гэтым?**

— На жаль, ён і ў Мінску вельмі часта не выконваецца. Што ж, давайце працаваць, каб ён выконваўся без бойкі. Я гарачы прыхільнік строгага падыходу да выканання гэтага закона. Калі не выконвае яго канкрэтная ўстанова, трэба прыцягваць да адказнасці. Агулам жа гаварыць вельмі цяжка.

**— Але ж патрэбна дапамога на дзяржаўным узроўні.**

— Што ж, будзем дапамагаць, але і без вашай дапамогі не абысціся. Вы ж гаворыце па-беларуску і мне прыемна вас чуць. Тры гады таму такога фактычна не было. Гэта ўжо зрух. Давайце рухацца далей. Жадаю вам поспехаў.

**Аляксандр Алегавіч БАРАВІЦКІ (г. Мінск):**

**— Ці існуе пагроза незалежнасці Беларусі?**

— Вы ведаеце, я не лічу, што незалежнасці Беларусі нічога не пагражае. Пагражаюць унутраныя праблемы: нежаданне многіх людзей зразумець тое, што адбываецца, а часта і неразуменне імі таго, што адбываецца. Стэрэатыпы моцна сядзяць у галовах. Таму трэба пэўнае цярпенне. Важна, каб вонкавыя праблемы вырашаліся толькі палітычнымі метадамі, а ўнутраныя — спосабам выхавання, агітацыі.

Мы здольныя ўладкаваць усе пытанні палітычнымі метадамі і з нашымі суседзямі. Вы бачыце, як мы гэтым займаемся. Праблемы трэба вырашаць беларускай меншасці за мяжой і нацыянальных меншасцей у нас. А вялікадзяржаўныя амбіцыі... Ведаеце, усё паступова ўладкоўваецца. Калі тлумачыць людзям, не ганьбіць іх, не лічыць, што сітуацыя невыпраўляльная — пытанні вырашаюцца. Вы сведка таго, што мы імкнёмся вырашаць іх па-людску, чалавечымі метадамі.

**Канстанцін Ільіч ДАМАРАД, старшыня Савета ветэранаў партызанскага руху Мінскай вобласці:**

**— Ці маеце Вы намер унесці на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі пытанне аб адмене пастановы аб часовым спыненні дзейнасці кампартыі Беларусі — тым больш, што гэта прапанова ўнесена Вамі?**

— Я такога намеру не маю. Няма ў гэтым неабходнасці. Створана і зарэгістравана Партыя камуністаў Беларусі, якая мае ўсе магчымасці для нармальнага функцыяніравання. Ніхто не чыніць перашкоду ў яе дзейнасці. Яна мае доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Чаму ёй павінны быць перавагі перад іншымі партыямі?

**— Але ж я меў на ўвазе захаванне правапераемнасці кампартыі...**

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ДЗЕЦІ «БЯГУЦЬ» З ГОРАДА

МІНСК. Літаральна ўсе бацькі стараюцца летам адправіць сваіх дзяцей далей ад шумнага і душнага горада, дзе іх нашчадкі маглі б паўнацэнна правесці канікулы. Для гэтага ў наваколлях Мінска распачалі работу 152 лагеры дзённага знаходжання дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту, 31 загарадны лагер, 48 лагераў працы і адпачынку, 16 профільных лагераў. Вырашана пытанне аб бясплатным выдзяленні палавіны пуцёвак у гэтыя ўстановы. Вось толькі ці хопіць іх усім жадаючым?

## ПАНЯДЗЕЛАК—ДЗЕНЬ ЗУСІМ НЕ ЦЯЖКІ. КАЛІ ЁН СВЯТА

І пачнецца свята ўжо напярэдадні, у нядзелю ў 10.00 спартыўна-мастацкім прадстаўленнем на стадыёне «Уручча». А 27-га, у панядзелак—непасрэдна ў Дзень незалежнасці—за падзеямі толькі паспявай сачыць:

10.00—ускладанне вянкоў і кветак да абеліскаў на плошчы Перамогі, «Мінск—горад-герой», да помнікаў і на ваенных могілках.

15.00—у парках імя Горкага, Чэлюскінцаў, 50-годдзя Кастрычніка, на плошчы Якуба Коласа адбудуцца выступленні майстроў мастацкай самадзейнасці.

17.00—святочны канцэрт у скверы Янкі Купалы; у той жа час у Канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі—урачыстае пасяджэнне, прысвечанае Дню незалежнасці, і святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.

21.00—22.00—на праспекце Машэрава, у парку Горкага і ў скверы Я. Купалы будуць іграць духавыя аркестры Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. А завершыцца ўсё святочным феерверкам—у 22.00.

У Дзень незалежнасці Беларусі, 27 ліпеня ўправа БНФ правядзе свае мерапрыемствы, мэта якіх вызначана так: «Ад дэклараванага суверэнітэту — да сапраўднай незалежнасці».

У 10.00 на плошчы Незалежнасці пачнецца шэсце па праспекце Ф. Скарыны да сквера Я. Купалы, дзе ў 11 гадзін з ускладання кветак да помніка песняру пачнецца мітынг.

БелаПАН.

## ЗАГАД
### міністра абароны Рэспублікі Беларусь

*17 ліпеня 1992 г.* **№ 73** *г. Мінск*

Таварышы салдаты, сяржанты і старшыны, прапаршчыкі, афіцэры і генералы!

Паважаныя ветэраны і партызаны Вялікай Айчыннай вайны!

Дарагія суайчыннікі!

Рэспубліка Беларусь адзначае другую гадавіну дзяржаўнай незалежнасці. Шлях да яе быў цяжкім і доўгім. Незлічоныя ахвяры за свабоду, за правы быць гаспадаром на сваёй зямлі панёс беларускі народ.

Назаўсёды захаваецца памяць аб тых, хто адстаяў і збярог Айчыну!

Веліч духу народа — залог умацавання незалежнасці Рэспублікі Беларусь, яе развіцця і працвітання.

Узброеныя сілы як адна з важнейшых структур дзяржаўнасці праходзяць сваё станаўленне. Іх асабовы састаў захоўвае вернасць беларускаму народу, робіць усё, каб забяспечыць баявую гатоўнасць войск ва ўмовах правядзення ваеннай рэформы, карэнных змяненняў ваеннай службы.

Сардэчна віншую ваеннаслужачых, ветэранаў са святам — Днём незалежнасці!

Жадаю добрага здароўя, поспехаў у службе, асабістага шчасця і дабрабыту!

У азнаменаванне свята Дня незалежнасці **загадваю:** 27 ліпеня 1992 года ў 22 гадзіны зрабіць святочны феерверк у сталіцы Рэспублікі Беларусь горадзе-герою Мінску і ў крэпасці-герою Брэсце.

Вечная слава героям, якія аддалі сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Айчыны!

Няхай жыве мужны беларускі народ!

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь, генерал-палкоўнік П. КАЗЛОЎСКІ.**

Barcelona'92

## Алімпіяда запрашае на свята

**Сёння ў Барселоне ўспыхне алімпійскі агонь. Пачнецца галоўны спартыўны турнір свету — Гульні XXV Алімпіяды.**

**Алімпійскія гульні — гэта заўсёды не толькі спаборніцтвы, а і свята. Свята маладосці, таленту, прыгажосці, спрыту, мужнасці, майстэрства... Нездарма ж з нецярпеннем і вялікімі спадзяваннямі і надзеямі чакаюць яго мільёны спартсменаў, аматараў спорту. Алімпійскі дэвіз: «Хутчэй, вышэй, мацней!» сапраўды авалодаў усёй планетай.**

**Для каманды СНД старты ў Барселоне адметныя ў многім. І справа не толькі ў тым, што яна ў сваім традыцыйным, «інтэрнацыянальным», складзе выступіць у апошні раз, хоць і гэта, вядома ж, характэрна не толькі для яе, а і для ўсяго сусветнага алімпійскага руху. Спаўняецца юбілей — роўна 40 гадоў назад савецкія алімпійцы наогул упершыню выйшлі на старты па праграме Алімпіяды. Тады ж, у 1952-м, дэбютавалі ў складзе зборнай СССР і беларускія спартсмены. Іх было ўсяго сем чалавек — тых, хто пракладваў дарогу беларускаму алімпізму. Нагадаем імёны гэтых першапраходцаў: лёгкаатлеты Міхаіл Крываносаў, Анатоль Юлін, Цімафей Лунёў і Міхаіл Салтыкоў, фехтавальшчыкі Герман Бокун і Юрый Дэксбах, вясляр Стэфан Міхайлаў. І хоць лепшы з іх—А. Юлін заняў тады ўсяго толькі чацвёртае месца ў бегу на 400 метраў з бар'ерамі, слава аб беларускіх алімпійцах пайшла неўзабаве па ўсёй Зямлі.**

**Сённяшняму пакаленню алімпійцаў ёсць з каго браць прыклад, на каго раўняцца... Не адзін год славілі нашу рэспубліку сваімі талентамі і выдатным майстэрствам, воляй да перамогі трохразовыя алімпійскія чэмпіёны Аляксандр Мядзведзь і Вольга Корбут, Алена Бялова і Уладзімір Парфяновіч; «залатыя» лаўрэаты Алімпіяд Алег Караваеў, Рамуальд Клім, Тамара Лазаковіч, Іван Ядзешка, Антаніна Кошаль, Валерый Шарый, Уладзімір Камінскі... А ўсяго прадстаўнікі Беларусі атрымалі на Гульнях у Мельбурне і Рыме, Токіо і Мехіка, Мюнхене і Манрэалі, Маскве і Сеуле 44 медалі вышэйшай пробы. Так што не выключана, што ў Барселоне наша дэлегацыя будзе ўшаноўваць юбілейнага, 50-га чэмпіёна! Хто ім стане! Прагноз у спорце — справа не зусім удзячная, але не ў прагнозе зараз справа. Галоўнае, каб гэты сапраўдны герой спорту быў...**

**І ён, несумненна, будзе!**

**...Не да святаў нам сёння — скажа іншы чытач. Так, за змрочнымі і заблытанымі буднямі мы і сапраўды пачынаем адвыкаць ад зямных, цывілізаваных даброт і радасцей. Але давайце хоць заўтра, на момант «забыўшыся» пра неўладкаванасць і непарадкі на вытворчасці і ў быце, пра чэргі і выбрыкі новай бюракратыі, пра іншыя бядоты і непаразуменні, успомнім, што ёсць на свеце і тое, што вышэй за ўсё гэта. І, уключыўшы тэлевізары і радыёпрыёмнікі, паглядзім і паслухаем рэпартажы з ўрачыстай цырымоніі адкрыцця XXV Алімпійскіх гульняў. Мы ўпэўнены: у вас пасвятлее на душы і ў сэрцы...**

**СВЯТА — ЯНО БЫЛО, ЁСЦЬ І БУДЗЕ СВЯТАМ!**

**(Чытайце 3-ю старонку «Звязды»).**

